№ 94(676)

Пятніца, 28 мая 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

# Народная Воля



## Заявление оргкомитета Белорусского союза офицеров и военнослужащих

Прошло более двадцати дней после захвата экс-министра МВД, члена оргкомитета по созданию Белорусского союза офицеров и военнослужащих Ю.Н.Захаренко. Генеральный прокурор Божелко, государственные средства массовой информации распространяют сомнительные слухи вокруг личности Ю.Н.Захаренко, порочащие его честь и репутацию создаваемой нами организации.

Мы требуем от властей официального заявления о причинах ареста или о непричастности государственных служб к аресту и похищению нашего соратника.

В срочном порядке требуем возбуждения уголовного дела по данному вопросу.

Напоминаем гражданам контактные телефоны для записи в Белорусский союз офицеров и военнослужащих: 226-68-10 и 211-00-00 абонент 86108.

Господа офицеры! Кто, если не мы, поспособствует выводу нашего Отечества из политического и экономического тупика?!

**От оргкомитета Белорусского союза офицеров и военнослужащих В.В.БОРОДАЧ.**

## Улады Гродна адмаўляюць саюзу палякаў Беларусі ў прадастаўленні памяшканняў для правядзення ягоных мерапрыемстваў

Як паведаміў БелаПАН старшыня СПБ Тадэвуш Гавін, "атрымалася, што для правядзення мерапрыемстваў нашай арганізацыі ў горадзе практычна няма месца". Паводле яго слоў, Гродзенскі гарвыканкам тройчы адмовіўся прадаставіць памяшканні для правядзення рэспубліканскай нарады па падвядзенні вынікаў культурна-асветніцкай дзейнасці аддзелаў СПБ за 1998 год. Прычым, як адзначыў Т.Гавін, ім было адмоўлена ва ўсіх буйных залах горада — у тым ліку абласнога драматычнага тэатра і гарадскога Дома культуры, хаця з кіраўніцтвам гэтых устаноў была дасягнута папярэдняя дамоўленасць аб арэндзе памяшканняў і яе кошце.

Прыкметна, што прадстаўнікоў СПБ не пусцілі і ў залу гродзенскай сярэдняй школы N 36, пабудаванай на сродкі Саюза і сусветнай польскай дыяспары. "Аднак гэтым улады нас не спыняць: мы прывязём 150 стулляў з Баранавічаў (Брэсцкая вобласць) і будзем праводзіць нараду недзе на лясной паляне, як у пачатку стагоддзя бальшавікі праводзілі майскія святы", — заявіў Тадэвуш Гавін.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

**Слышали?**

## Накануне встречи с датчанами Михаила Вергеенко обокрали

Неприятная история произошла с главным тренером сборной Беларуси по футболу Михаилом Вергеенко.

В преддверии поединка отборочного турнира чемпионата Европы Дания—Беларусь, который, как известно, пройдет 5 июня, наш наставник лишился весьма ценного портфеля с документами, который был похищен злоумышленниками из его автомобиля. В портфеле оказались также тренерские конспекты и видеокассеты с записями матчей соперников белорусской команды по отборочной группе, в том числе и датчан. При этом вряд ли это была диверсия со стороны последних, которые, напомним, минувшей осенью с большим трудом увезли из Минска очко. Все это, безусловно, затруднит работу Михаила Никифоровича перед скорым поединком.

Любопытно, что практически аналогичная история не так давно приключилась и с главным тренером баскетбольного клуба ЦСКА (Москва) Станиславом Ереминым. Его машину хорошенько почистили перед ответственным матчем, если не ошибаюсь, против греческого "Олимпиакоса" в розыгрыше Евролиги. Но самое любопытное в том, что спустя несколько дней мошенники, оказавшиеся явно из числа фанатов прославленного армейского клуба, вернули наставнику столь необходимые ему документы.

Проявят ли такую же "свядомасць" воры и по отношению к нашему тренеру? Время до игры с Данией еще есть. От себя же добавим. Мужики! Вы мужики или где, в самом деле?!

**Дмитрий ЕРМАК.**

**Стоп-кадр**



Александр Дорогокупец в свободное от основной работы время не прочь посидеть за мольбертом. Со многими его работами знакомы не только в Витебске, где живет талантливый человек, но и в других уголках страны.

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

## Зварот праваабарончай камісіі Маладога Фронту

Мы, сябры праваабарончай камісіі Маладога Фронту, абураны знікненнем палітычных апанентаў рэжыму Лукашэнкі і выказваем занепакоенасць фактамі прапажы Тамары Віннікавай і Юрыя Захаранкі.

Мы заклікаем усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь далучыцца да акцыі грамадскага пратэсту і даслаць у Адміністрацыю прэзідэнта ліст з наступным зместам:

> Рэспубліка Беларусь
> Мінск, К.Маркса, 38
> Адміністрацыя прэзідэнта РБ
>
> **Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнку**
>
> Я, грамадзянін(ка) Рэспублікі Беларусь, ____________
> патрабую спыніць знікненні палітычных апанентаў улады. А таксама заклікаю правесці незалежнае расследаванне па фактах знікнення Тамары Віннікавай і Юрыя Захаранкі.
>
> ____________
> (подпіс)

## Арганізацыя "Рускае нацыянальнае адзінства" накіравала ў Міністэрства юстыцыі Беларусі дакументы для рэгістрацыі

Арганізацыя "Рускае нацыянальнае адзінства" (РНА) накіравала ў Міністэрства юстыцыі краіны дакументы для рэгістрацыі свайго аб'яднання на Беларусі. Як пацвердзіў БелаПАН начальнік упраўлення грамадскіх аб'яднанняў Мінюста Міхаіл Сухінін, дакументы знаходзяцца зараз ў стадыі разгляду.

Пры гэтым М.Сухінін адзначыў, што ў міністэрства паступаюць матэрыялы негатыўнага характару пра дзейнасць мясцовых арганізацый РНА. Такой, паводле яго слоў, з'яўляецца інфармацыя пра дзеянні ў Кобрыне лідэра РНА, які абвінавачваецца ў ганеннях супраць мясцовых яўрэяў і цыган, і, такім чынам, парушае беларускае заканадаўства.

Паводле звестак БелаПАН, у гэты час праводзіцца экспертыза рэгістрацыйных дакументаў РНА і дзейнасці арганізацыі. Сёння структуры Рускага нацыянальнага адзінства дзейнічаюць у Мінску, Брэсце, Віцебску, Гомелі, Магілёве, Баранавічах, Кобрыне, Крупках і шэрагу іншых гарадоў Беларусі.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Дзяржкамітэт па друку Беларусі вынес другое папярэджванне незалежнай газеце "Навіны"

26 мая Дзяржаўны камітэт па друку Беларусі вынес рэдакцыі недзяржаўнай газеты "Навіны" чарговае папярэджванне — другое на працягу года.

Нагадаем, што першае папярэджванне было вынесена "Навінам" за публікацыю інфармацыі, датычнай выбараў прэзідэнта Беларусі 16 мая г.г., прызначаных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання. Другое папярэджванне вынесена за артыкул Аляксандра Дубравіна "Карбункулы законнасці", апублікаваны ў нумары за 12 мая. Артыкул быў прысвечаны надрукаванаму ў газеце "Свободные новости" адкрытаму лісту групы супрацоўнікаў міліцыі, якія асуджалі дзеянні апазіцыянера, былога міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі, які таямніча знік 7 мая г.г. На думку Дзяржкамдруку, аўтар артыкула распальвае ў грамадстве сацыяльную варожасць і зневажае супрацоўнікаў міліцыі.

Намеснік галоўнага рэдактара "Навін" Мікалай Халезін лічыць, што дадзенае папярэджванне — першы крок улад да знішчэння незалежнай прэсы напярэдадні 20 ліпеня 1999 года — тэрміну, калі, згодна з Канстытуцыяй 1994 года, заканчваюцца паўнамоцтвы цяперашняга прэзідэнта краіны. М.Халезін упэўнены, што і астатнія газеты будуць закрыты — альбо з-за папярэджванняў, альбо па эканамічных матывах.

Паводле ягоных слоў, рэдакцыя мае намер абскардзіць дзеянні Дзяржкамдруку ў судовым парадку. Калі ж адстаяць газету не ўдасца, то журналісты пачнуць "раскручваць" новае выданне, якое ўжо зарэгістравана і называецца "Наша свабода".

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

**Острая тема**

## Кто защитит людей труда?

### Рабочий в мае 1999 года не стал работать хуже, чем он работал в мае прошлого года, но его зарплата стала почти в два раза меньше, и цены к тому же намного выросли.

*Несмотря на недавнее повышение минимальной оплаты труда, тарифной ставки первого разряда и относительное увеличение средней заработной платы рабочих и служащих, положение трудящихся продолжает катастрофически ухудшаться. Необузданная инфляция, бешеный рост цен фактически ставят на грань нищеты большинство населения республики. Что будет дальше? Кто защитит людей труда?*

***Об этом интервью с председателем крупнейшего отраслевого профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения Александром БУХВОСТОВЫМ.***

**— 27 января 1999 г. профсоюзы провели массовую акцию протеста против падения уровня жизни. В резолюции митинга было записано, что если правительство не выполнит требования профсоюзов и ничего не изменит в социально-экономической политике, через 2 месяца они проведут еще более массовые акции, цель которых будет отправить в отставку правительство.**

**Прошло четыре месяца. Реальная зарплата упала на 14 процентов, уровень жизни продолжает снижаться, а профсоюзы не только не выполнили своих обещаний по активным выступлениям, но даже — совсем притихли. По крайней мере, создается такое впечатление. Что случилось? В чем причина пассивности профсоюзов?**

— Не следует говорить, что все профсоюзы выступали 27 января. В основном это было несколько профсоюзов промышленности и профсоюз предпринимателей "Садружнасць". А ведь только в ФПБ 33 отраслевых профсоюза. Появились предпосылки и для превращения профсоюзов в достаточно мощную общественно-политическую силу, способную оказать влияние на события, происходящие в республике. Это сильно обеспокоило белорусское руководство. Но вместо того, чтобы исправлять положение дел в экономике, радикально изменять промышленную и социальную политику, нынешняя власть решила силой подавить профсоюзы.

Появился Декрет о перерегистрации профсоюзов, грубо нарушивший и Закон о профсоюзах, и международные акты по социальному партнерству. Официальными лицами от власти было заявлено, что перерегистрация проводится для того, чтобы разобраться с активной частью профдвижения, отсечь профсоюзы от политической борьбы. Хотели так же разогреть консервативную часть профсоюзов, ту, которая неплохо устроилась, прижилась на хлебах рабочих. Ну и напугать функционеров тем, что профсоюзы могут быть запрещены.

Кроме этого, просто повязать их нудной, никому не нужной бюрократической процедурой, что, собственно, и представляет собой нынешняя перерегистрация.

Обычные средства борьбы тоталитаризма — ложь, клевета и нагнетание страха. В некотором роде расчеты этих прожектеров оправдались. Как они и ожидали, в целом профсоюзы оказались не готовыми к жесткой оппозиционной борьбе. Заявив протест против незаконного Декрета, обратившись за поддержкой в МОТ и международные организации, профсоюзы в конечном итоге согласились на перерегистрацию. Наиболее активно выступил наш профсоюз. Мы призывали бойкотировать перерегистрацию, а затем начали проводить пикетирование, но, к сожалению, ни один из профсоюзов нас не поддержал.

Март—апрель ушли на перерегистрацию, а не на выполнение резолюции митинга. Это одна из причин того, что не состоялись массовые выступления трудящихся, несмотря на нарастание социальных неурядиц, невыполнение правительством требований профсоюзов. Другая причина, на мой взгляд, в позиции и организационных усилиях лидеров профсоюзов и профсоюзных организаций. Это как у В. Высоцкого: "Настоящих буйных мало — вот и нету вожаков!".

Наши предложения по проведению митинга и манифестации в апреле не были поддержаны Советом ФПБ и другими отраслевыми профсоюзами. Все ссылались на то, что люди не готовы идти на площадь. В то же время социологические исследования, которые мы провели, говорили о готовности людей выступить в защиту своих прав. Предложение о проведении митинга-манифестации в апреле поддержали 62,5%, а о готовности принять участие в митинге заявили 41,5%. Причем это данные по всей Беларуси, а в Минске они значительно выше. Такой активности не было в опросах предыдущих периодов в 1997—1998 годах. Люди устали от пустых обещаний и показательных усилий по наведению порядка на ТВ, от бессилия и некомпетентности правительства, от постоянного безденежья и нищеты.

На мой взгляд, нынешнему режиму перерегистрация или другие подобные акции не помогут. Социальный результат, так необходимый людям, достигается не администрированием, а компетентным управлением, грамотной экономической, промышленной и социальной политикой, тем, что, к сожалению, недоступно для нашего правительства и руководства республики.

Профсоюзы, особенно мы — их лидеры, должны нести ответственность за то, что постоянно снижается уровень жизни, падает реальная зарплата, исчезают многие социальные гарантии. Профсоюзы обязаны влиять на государственную политику, отстаивать демократию, бороться за права человека, только в этом случае они выполняют свою функцию.

**— Когда возможны активные выступления трудящихся?**

— 12 мая с.г. прошел очередной XI пленум Совета нашего профсоюза. Он единогласно поддержал решение об активном противодействии проводимой в республике социально-экономической политике, выразив к ней крайне негативное отношение. Совету ФПБ предложено собрать 2-е Республиканское собрание представителей всех промышленных предприятий и организаций, на котором следует рассмотреть итоги выполнения резолюции прошлого собрания. Как вы помните, оно состоялось 21 мая 1998 года. Необходимо на этом собрании принять решение по дальнейшим совместным действиям. Надо откровенно объясниться с профсоюзным активом. А то что получается? Принимают решения представители всех профсоюзов, а пытаются выполнять эти решения только 3—4. Ведь собрание 21 мая прошлого года было толчком к совместным действиям. Но этих-то совместных действий так и не получилось. В чем причина? Мы-то ведь ее знаем!

В конце мая в Бресте состоится заседание президиума Совета ФПБ, где могут быть приняты решения по совместным действиям. Если этого не произойдет, тогда каждый профсоюз будет действовать в соответствии со своими планами. В профсоюзе АСМ на Пленуме приняли решение — проводить акции протеста, выполнять резолюцию митинга от 27 января с.г. Выступления уже могут быть в июле с.г. Для достижения решающего результата необходимы более массовые выступления. Тогда власть и правительство пойдут на уступки, приложат те необходимые усилия, которые остановят падение уровня жизни. В противном случае правительство вынуждено будет уйти в отставку, осознавая свою неспособность работать в соответствии с требованиями трудящихся. Но для такого результата требуются усилия всех профсоюзов.

Рабочий в мае 1999 года не стал работать хуже, чем он работал в мае прошлого года, но его зарплата стала почти в два раза меньше, и цены к тому же намного выросли.

Кто должен ответить? Правительство и профсоюзы. Правительство — потому, что не может нормально организовать дело, а профсоюзы — потому, что не найдут в себе силы разобраться с таким правительством.

Наши профсоюзные активисты часто удивляются молчанию работников бюджетной сферы, других отраслей, где зарплата значительно ниже, чем в автосельхозмаше. Но уже видно, что терпение людей иссякает, и все предпосылки для общего выступления против такой жизни есть. Профсоюзы, униженные перерегистрацией, должны, наконец-то, организоваться и выступить вместе. Трудящиеся этого ждут. И я верю, что такое выступление скоро будет.

**Стоп-кадр**



"Возьми, деточка, красивые цветы..."

**Фото Василия АРТЮШЕНКО.**

**Желаем удачи!**

## Если вы умеете рисовать... на стене

Как уже сообщалось, молодежная организация "Гражданский форум" выступает инициатором проведения в г.Минске республиканского конкурса настенного рисунка-граффити "Мое поколение вступает в 21-й век", который предполагается провести 6 июня 1999 г. с 10.00 до 22.00. Для участия в конкурсе приглашаются молодые люди из Минска и других городов Беларуси, независимо от возраста, желающие украсить столицу и тем самым отметить наступление лета.

К участию в конкурсе допускаются команды и индивидуальные участники, представившие эскизы своих рисунков не позднее первого июня.

Для определения победителей будет создана комиссия из известных искусствоведов, диджеев ведущих радиостанций и истинных ценителей граффити.

Победителей конкурса ожидают призы "Гражданского форума" и спонсоров.

Предварительная запись на конкурс проводится по телефону: (017)227-44-67.

**А.БУКЧИН, пресс-секретарь "Гражданского форума".**

Пр. Дзмітрыя, Ісая, Пахома.
К. Аўгусціна, Яраміра.

ДЗЕНЬ ПАГРАНІЧНІКА

МАЙ
**28**
'99 ПЯТНІЦА

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 4.49 | Поўня |
| Захад 21.26 | 30 мая |
| Даўж. дня 16.37 | Захад 5.22 |
| | Усход 20.22 |

**Дзікунства**

## Рукі на стол!

24 мая былі затрыманы сябра Управы Маладога Фронту Леанід Амбразевіч і сябра Праваабарончай камісіі Маладога Фронту Міхаіл Шарамет. Затрыманне адбылося, калі хлопцы рушылі з управы БНФ да плошчы Я.Купалы, дзе павінна была адбыцца акцыя ў падтрымку М.Чыгіра і іншых палітзняволеных. Пасля дастаўкі ў Цэнтральны РАУС, з затрыманых знялі адбіткі пальцаў і склалі пратакол канфіскацыі рэчаў. Пратрымаўшы гадзіну, ім вярнулі канфіскаваныя рэчы і адпусцілі, так і не патлумачыўшы нагоду затрымання. Гэта ўжо не першы выпадак прэвенціўнага затрымання сябраў Маладога Фронту. Сваімі дзеяннямі рэжым у чарговы раз перашкаджае ажыццяўленню канстытуцыйных правоў грамадзян Беларусі.

**Ул. інф.**




Расту разам з "Народнай воляй".

**Падпіска на "Народную волю" на трэці квартал працягваецца. Наш індэкс: 63222. Вас чакаюць паштовыя аддзяленні, пункты падпіскі "Белсаюздруку".**

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

## Плануецца, што 3 ліпеня ў Мінску адбудзецца ваенны парад

Паводле звестак БелаПАН, 3 ліпеня ў Мінску адбудзецца ваенны парад у гонар 55-й гадавіны вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Плануецца, што ў гэты дзень па плошчы Незалежнасці сталіцы пройдуць выкладчыкі, слухачы і курсанты Ваеннай акадэміі рэспублікі, выхаванцы Мінскага ваеннага суворaўскага вучылішча, падраздзяленні розных відаў і радоў войскаў Узброеных Сіл краіны. На парадзе будзе прадстаўлена баявая тэхніка беларускага войску: баявыя машыны пяхоты, бронетранспарцёры, самаходныя гаўбіцы, рэактыўныя сістэмы залпавага агню "БелГрад", зенітныя ракетныя комплексы С-300, а таксама некаторыя іншыя віды ўзбраенняў.

**Алег САКАЛОЎ.**

